# Ніва


ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 20 (429) | ГОД IX | 17 МАЯ 1964 г. | ЦАНА 60 ГР.


## НАША МОВА

Пад асколкаў злавеснае шастанне
У атаку ішлі за цябе.
Не сакрэт,
Што цябе, як шчасце,
Адстаялі ў цяжкой барацьбе.
І жадаючы ў сэрца ўліцца,
Быццам чысты струмень ручая,
Жаўруковым званочкам бруіцца
На світанні гамонка твая.
Цябе, нібы жывую саткалі,
Задуменныя шаты нябёс,
Срэбразвоннага Нёмана хвалі,
Трапяткія лісточкі бяроз.
Ты мне стала хвалююча блізкай,
Зберагаць і захоўваць хачу
З той хвіліны, калі над калыскай
Першы раз «Калыханку» пачуў.
Моваў розных на свеце нямала,
Ды цябе б, як жыву, не змяняў,
Тую мову, якою Купала
На «Жалейцы» у полі зайграў.

МАР'ЯН ДУКСА

БОЛЬШ ДАВЕРУ ГАСПАДАРАМ

## ЧАС - ГЭТА ГРОШЫ

**ЯН ГІДЫНСКІ — ДЫРЭКТАР ВАЯВОДСКАГА АДДЗЕЛА АШЧАДНА - ПАЗЫКАВЫХ СПУЛДЗЕЛЬНЯЎ (СОП).**

На пачатак раскажу аб самых важных новаўвядзеннях у ашчадна - пазыкавых спулдзельнях, іначай званых СОП. Калісьці гаспадар, які браў пазыку, быў абавязаны на кожную пазыку складаць асобны скрыпт. У сувязі з гэтым было многа валакіты, усякіх паперкаў. Хадзіў, блудзіў чалавек з просьбамі па людзях, каб хто-небудзь захацеў паручыцца за яго, стаць яго жырантам.

Цяпер усё гэта непатрэбна. Даволі, калі гаспадар падпіша чысты вэксаль з адпаведным абавязацельствам. Прытым пазыку да пяці тысяч злотых можа атрымаць адразу, у той жа дзень — без нервовых чаканняў і без паручыцеляў.

Аднак СОП мае права патрабаваць паручыцеля на пазыку таму гаспадару, які несумленна сплачваў ранейшыя пазыкі. Вядома, да такіх несумленных плацёжнікаў цяжка мець поўны давер, праўда? Панадная рэч — гэтыя грошы для аматараў лёгкай нажывы...

Прыйшла вясна а з ёю выйшлі у поле людзі з машынамі — араць, сеяць. Да гэтага часу, каб выкарыстаць машыны сельскагаспадарчых гурткоў — трактары, сеялкі — неабходна было мець грошы, скажам, на руках. Ды з грашыма на гаспадарцы лягчэй увосень чымсьці ўвесну... Пры такім становішчы мы таксама стараемся аказаць гаспадарам дапамогу, палягчыць разлік. Ужо не трэба шукаць грошай, можна і без іх дагаварвацца на машыны з сельскагаспадарчым гуртком, дзе афармяць адпаведны пазыкавы скрыпт. За карыстанне машынамі заплаціць за вас СОП без ніякіх паручыцеляў.

Ліквідацыя непатрэбнай працэдуры, хадзьбы «ад бюра да бюра», з'яўляецца значнай палёгкай у гаспадарскіх клопатах, эканоміць час і нервы. Таму ашчадна - пазыкавыя спулдзельні (СОП-ы) ўводзяць яшчэ адну выгаду — ашчадна - разлікавыя рахункі, які можа сабе закласці кожны, хто захоча.

— У чым заключаецца гэта выгада? — спытае хтосьці.

Напрыклад, прывёз гаспадар на продаж да ГС-у свае прадукты. У таргов ы дзень ля ГС-у вялікі рух, стаіць чарга фурманак, важаць, выпісваюць квіты, з якімі трэба вандраваць па розных касах, зноў стаяць у чарзе, — чакаць, чакаць і яшчэ раз чакаць. Таму адкрыўшы такі ашчадна-разлікавы рахунак, мы не патрабуем цэлы дзень траціць на гандлёвую цяганіну. Здаўшы ў ГС-е свой тавар, спакойна едзем дамоў. На ваш СОП-аўскі рахунак запішуць усе вашы ўплывы грошай за зданыя прадукты. Захочаце, СОП заплаціць за вас усе вашы выдаткі, як пакупка штучных угнаенняў, падаткі, страхоўка.

За соль, цукар, мыла ці гарэлку плаціце аднак самі, са сваёй кішэні — за такія пакупкі СОП не бярэцца плаціць. Зрэшты, заклаўшы ўласны рахунак, атрымаеце дзве чэкавыя кніжачкі: першую — да разлікаў праз касу з надпісам «Бэзготувково», другую, — да разлікаў грашыма.

Скажам, Сцяпан пайшоў да ГС-у купляць сячкарню і плаціць за яе не грашыма, а чэкам з кніжачкі, абазначанай «Бэзготувково». Але, калі Сцяпану спатрэбілася закупіць мяшок солі ці іншых прадуктаў, а ўжо не мае пры сабе грошай, тады ідзе да СОП і там на чэк з другой кніжачкі здымае адпаведную суму грошай.

Пра новыя ўплывы на ваш рахунак у СОП за кожным разам паведамляюць вас пісьмом. Так што заўсёды ведаем. колькі ў нас грошай ёсць і колькі трэба браць пазыкі.

Агульны грашовы абарот СОП-аў у беластоцкім ваяводстве за мінулы год склаў суму звыш 18 мільярдаў злотых. З

(Працяг на стар. 5)



ЗА ПАВАРОТАМ НАРВА — Фота В. Рудчык

## САКРЭТЫ ЧЫЖОЎ

Шырокая, брукаваная вуліца, па абодвух яе баках старыя ліпы чаргуюцца з маладзенькімі, толькі што пасаджанымі таполямі. Кажуць, што для адзначэння XX-годдзя народнай дзяржавы намераны ў вёсцы пралажыць тратуар. Вёска велізарная. Разам з хутарамі налічвае 186 гаспадароў. Дамы пераважна новыя, пабудаваныя ўжо пасля апошняй вайны, дамы прасторныя, многа мураваных. Хацінак, што памятаюць цара Мікалая, засталося ў вёсцы не больш 15-ці.

Усё гэтае можа заўважыць кожны, хто завітае ў Чыжы. Падумае яшчэ: багата жывуць тут людзі.

Ці гэта аднак усё, што можна сказаць пра гэтую вёску? Ці ж не мае яна сакрэтаў, якія старанна хавае перад вачыма чужога?

Аграном Аляксандр Харкевіч апавядае, што зямля ў Чыжах не найгоршая. Аднак навейшыя метады гаспадаравання з вялікімі цяжкасцямі пракладаюць сюды сабе дарогу. Сяляне сеюць тут пераважна жыта. авёс, ячмень, пшаніцу, садзяць бульбу. Як іх дзяды, прадзеды. Да 1963 года ніхто тут не вапнаваў глебы, хаця яна ў 65% была кіслая. а кантрактаваць сельскагаспадарчыя расліны пачалі ў Чыжах толькі год таму. Сяляне задавальняліся тым, што давала ім сама зямля, а давала яна даволі шчодра. У сярэднім па 15 з палавінай цэнтнераў жыта з аднаго гектара. 16 ц. пшаніцы. 13 ц. аўса і 150 ц. бульбы. Гэта паводле падлікаў агранома за мінулы год.

У Чыжах, зразумела, ёсць сельскагаспадарчы гурток. Налічвае ён 26 членаў і існуе ад пачатку 1958 года. Яго маёмасць сягае 400 тысяч злотых. Гурток багаты машынамі. У яго распараджэнні 3 трактары з поўнымі камплектамі машын і абмалотачны агрэгат. Да палавіны сакавіка г.г. сапраўдным кіраўніком гуртка быў Пятро Ціханюк, намеснік старшыні, а першым яго сябрам рахункавод гуртка Лявон Артэмюк. Шэсць год адчувалі яны сябе гаспадарамі гуртkоўскай маёмасці і шэсць год гурток ехаў на стратах. Ані трактары, ані абмалотачны агрэгат ніколі не выконвалі нават палавіны колькасці гадзін прадбачанай нормы. На шчасце, 14 сакавіка г.г. было выбрана новае праўленне гуртка. Можа яно зоймецца ўпарадкаваннем супольнай гаспадаркі? Гэта справа тым больш неадкладная, што ў Чыжах прадбачваецца канцэнтрацыя гуртkоўскай тэхнікі. Чыжы маюць быць цэнтрам гуртkоўскай механізацыі.

Школа ў Чыжах існуе ўжо 20 год. Але дарэмна шукалі б вы ў краіне хаця б аднаго інжынера, лекара або іншага чалавека з вышэйшай адукацыяй, які нарадзіўся б у Чыжах. Няма такога. Няма таксама ніводнага чалавека з атэстатам сталасці. Так прынамсі цвердзіць настаўніца Генрыка Кульчакевіч, якая разам з мужам Зыгмунтам настаўнічае ў Чыжах ужо 13 год. Затое матацыклаў у Чыжах — хоць адбаўляй. Вось у Рыгора Сцепанюка тры сыны. Кожны мае матацыкл, у хаце стаіць тэлевізар — адзін з двух у вёсцы, але адукацыі, нават сярэдняй, не мае ні адзін.

Гэты прыклад вельмі тыповы для Чыжоў. Адна толькі Ніна Артэмюк канчае зараз Гайнаўскі ліцэй. Пад канец мая першы жыхар гэтай вёскі пахваліцца атэстатам сталасці.

— У Чыжах большасць сялян жыве вельмі добра, каб яшчэ думаць пра навуку. Навука, як вядома, лёгка не даецца. У Чыжах дзяўчаты маюць модныя сукенкі, туфелькі і ўсё іншае, хлопцы ганарацца матацыкламі, а ўсе разам ду-

(Працяг на стар. 5)




Андрэй Барвіюк: ШТО ДАЛЕЙ...

Сакрат Яновіч: РЭПАРТАЖ СА СТАРОГА КОРНІНА.

Дзядзька Лявонь: МІХАЛОЎСКІ ШУМ.

# ЗМЯРКАННЕ КАЛАНІЯЛІЗМУ Ў АДЭНЕ

Ніколі не высыхае кроў сярод пяскоў паўднёвай Аравіі. Напрыклад, у брытанскім пратэктараце Адэн барацьба паміж англічанамі і арабскімі паўстанцамі адбываецца безупынна. Апошнім часам гэта барацьба разгарэлася яшчэ мацней.

Англічане цвердзяць, што актыўная барацьба адэнскіх партызан з'яўляецца вынікам умяшання ва ўнутраныя справы Адэна і вайсковай дапамогі арабскаму насельніцтву з боку суседняй рэспублікі Йемен. У Лондане лічаць, што ўрад Йемена падтрымоўваемы Аб'яднанай Арабскай Рэспублікай, хоча захапіць Адэн і ўсю паўднёвую Аравію, якая з'яўляецца астатнім кавалкам брытанскай каланіяльнай імперыі ў гэтай частцы свету. У такой сітуацыі брытанскі ўрад узмацніў вайсковы гарнізон на 600 салдат, не лічачы соцен самалётаў і флатыліі ваенных караблёў, якія сцерагуць адэнскае ўзбярэжжа. Вайна ў Адэне (а яна несумненна антыкаланіяльная) незалежна ад таго, як доўга будзе цягнуцца, закончыцца перамогай арабаў.

Як, чаму і калі паявіліся тут англічане? Перад усім, насуперак англійскім сцвярджэнням, трэба ясна сказаць, што Адэн ніколі не быў асобнай дзяржавай. Ад IX ст. да канца XVIII стагоддзя Адэн уваходзіў у склад Йемена, якім уладалі імамы. У першай палове XIX ст. улада імамаў была звергнута ў выніку брытанскай інтэрвенцыі. Англічане паслужыліся тут старым каланіяльным метадам. На марскім узбярэжжы высадзілі некалькі вайсковых дэсантаў і пад страхам вінтовак прымусілі правадыроў некалькіх прымарскіх плямён прызнаць пратэктарат Лондана. Падкупленыя правадыры гэтых плямён адракліся ад паслушэнства імамам і пры дапамозе англічан заваявалі ўсю краіну. У 1839 годзе Вялікабрытанія поўнасцю заўладала Адэнам. Брытанскую ўладу над гэтай краінай пацвердзілі аж 31 трактат, падпісаныя султанамі, эмірамі і шэйкамі паўднёвай Аравіі, дзе пражывае 650 тысяч чалавек. Усе гэтыя трактаты падпісаны пад пагрозай штыхоў або дзякуючы агіднаму подкупу. Таму яны ніколі не мелі трывалай вартасці. Брытанскія гарнізоны ніколі не адчувалі сябе тут бяспечна. Атакаваныя арабскімі партызанамі абараня́лі брытанскі каланіялізм; абараня́лі важны стратэгічны пункт, якім з'яўляецца Адэн на шляху з Міжземнага мора ў Індыю і ўсходнюю Афрыку. З часам аднак брытанскія пазіцыі моцна пахіснуліся і гэта стала прычынаю таго, што ў 1959 годзе лонданскі ўрад выступіў з прапановай утварыць паўднёваарабскую федэрацыю, якая ў будучым павінна была стаць суверэннай дзяржавай, цесна павязанай з Англіяй. Зрэшты, такім спосабам у некаторых выпадках брытанскім палітыкам удавалася ўтрымаць у сваіх руках не адну каланіяльную краіну. Аднак, у Адэне, як бачым, цяжка рэалізаваць такую фікцыйную незалежнасць, якая павінна была аслабіць арабскі нацыянальна - вызваленчы рух у гэтым раёне. Ужо ў студзені 1957 года тагачасныя ўлады Йемена заявілі з трыбуны Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, што ўвесь адэнскі пратэктарат з'яўляецца «інтэгральнай часткай Йемена». Пасля перамогі ў Йемене рэспубліканскага ўраду прэзідэнта Салала ўзраслі намаганні арабаў, каб адваяваць Адэн.

Маем поўнае права спадзявацца, што ўжо палічаны гадзіны брытанскага ўладання ў паўднёвай Аравіі. Раней ці пазней брытанская карона страціць яшчэ адну сваю жамчужыну. Страта Адэна азначае страту доступу да натуральных багаццяў, якія тоіць у сваіх нетрах Аравійскі Паўвостраў; страта Адэна азначае таксама страту важнай стратэгічнай базы ў гэтым раёне свету. Таму англічане вельмі заўзята бароняць свае адэнскія пазіцыі.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

*Пазнаем свой край*

# ГАСПАДАРЧАЕ РАЗВІЦЦЁ ЗАХОДНІХ І ПАЎНОЧНЫХ ЗЯМЕЛЬ

Заходнія і паўночныя землі з'яўляюцца інтэгральнай часткай агульнанароднай гаспадаркі. Толькі дзякуючы намаганням усяго народу маем такія вялікія дасягненні ў гаспадарцы гэтых зямель. У першыя пасляваенныя гады заходнія і паўночныя землі, дзе асабліва моцна адчулася ваенная разруха, пахланялі 30% усіх капіталаўкладанняў краіны. Да 1960 года ў гаспадарку заходніх і паўночных зямель было ўкладзена 200 мільярдаў злотых. Як бачым, велізарная частка народнай маёмасці гэтых зямель з'яўляецца вынікам капіталаўкладанняў народнай Польшчы. У гэтай пяцігодцы на разбудову гаспадаркі заходніх і паўночных зямель прызначана 133 мільярды злотых, што складае 26% агульнакраёвай сумы.

У якім напрамку развіваецца гаспадарка гэтых зямель? Значная частка грашовых укладаў прызначаецца на расшырэнне прамысловасці. Дзякуючы такой палітыцы прамысловасць на заходніх і паўночных землях развіваецца хутчэй, чым у іншых раёнах Польшчы.

### РОЛЯ Ў ГАСПАДАРЦЫ КРАІНЫ

Сістэматычна ўзрастае ўдзел заходніх і паўночных зямель у гаспадарцы Польшчы і складае цяпер каля 28% (у перыяд нямецкага панавання ўдзел прадукцыі гэтых зямель у прадукцыі ўсёй Германіі складаў каля 6%).

Давайце разгледзім паасобныя галіны прамысловасці заходніх і паўночных зямель.

У 1961 годзе гэтыя землі давалі 30,9% электраэнергіі, 25,6% каменнага вугалю, 69% бурага вугалю, 47% коксу, 7,6% сталі, 100% меднай руды, 23,7% цэменту, 38,6% цэлюлёзы, 71,7% чыгуначных вагонаў, 42,2% сернай кіслаты, 52,8% азотных угнаенняў і 36,8% цукру. Як бачым, прыведзеныя лікі пацвярджаюць значную ролю паўночных і заходніх зямель у народнай гаспадарцы.

### ДЫНАМІКА РАЗВІЦЦЯ

Адлюстраваннем вялікай працы, укладзенай у аднаўленне і расшырэнне гаспадаркі заходніх і паўночных зямель, з'яўляецца параўнанне сучаснай прадукцыі і прамысловасці з узроўнем яе 1946 года. Гэта быў год незалечаных ран, нанесеных вайной. Гэта быў год пачатку аднаўлення гаспадаркі. Цяпер выраб электраэнергіі ўзрос у параўнанні з 1946 годам у 6 разоў, здабыча каменнага вугалю — у 2 разы, бурага вугалю — у 5 разоў, сталі — амаль у 10 разоў, прадукцыя сернай кіслаты — у 8 разоў, цэменту — амаль у 7 разоў, баваўняных тканін— у 5 разоў, цукру — амаль у 6 разоў і г.д.



**Возера Голдап.** Фота: **А. Казёл**

Гэтыя факты маюць велізарнае палітычнае значэнне. Варта дадаць, што такое параўнанне з перадваенным часам таксама выглядае на карысць Польшчы.

Аднак гэта яшчэ не поўная карціна гаспадарчых дасягненняў. Заўважаюцца карысныя перамены ў структуры прамысловасці. Узніклі новыя галіны вытворчасці. Значна разбудаваліся такія галіны, як суднабудаўніцтва, машынабудаванне, хімічная і электрычная прамысловасці. Змянілася геаграфія прамысловасці, узніклі вялікія сучасныя прадпрыемствы.

### НОВЫЯ ГЕАЛАГІЧНЫЯ АДКРЫЦЦІ

Заходнія і паўночныя землі крыюць у сабе значныя запасы карысных выкапняў. Нельга забываць, што ў часы нямецкага панавання гэтая тэрыторыя была вельмі слаба разведана. Дзякуючы польскай геалагічнай службе адкрыты новыя даволі багатыя залежы меднай руды ў раёне Любіна і Глагова. У сучасны момант Польшча належыць да адной з багацейшых меднай рудой дзяржаў Еўропы. Апрача гэтага, інтэнсіўная геалагічная разведка прывяла да адкрыцця нафты ў раёне Зялёнай Гуры, а таксама запасаў бурага вугалю і калійнай солі. Можна спадзявацца, што далейшыя пошукі прынясуць новыя адкрыцці.

### НАСЕЛЬНІЦТВА

Заходнія і паўночныя землі займаюць 1/3 тэрыторыі Польшчы. У 1962 годзе насельніцтва гэтых зямель дасягнула 8 міль-

(Працяг на стар. 5)

*Спорт*

## Першая стадыя барацьбы

Пішучы раней аб XVII велагонцы міру, я выказаў думку, што барацьба за першае месца разгарыцца паміж ГДР і СССР. Гэтай думкі я прытрымліваюся і далей, хоць на фінішы III этапу ва Уроцлаве сярод першых не было веласіпедыстаў ГДР і СССР.

Велагонка мае за сабой толькі першую, уступную фазу і далёка яшчэ да канцавых вынікаў. Яшчэ не адзін раз давядзецца перажыць рух на класіфікацыйных табліцах, не раз будзем сведкамі ўзлётаў і ўпадкаў. Але ўжо сёння можна назваць лепшыя каманды: ГДР, Чэхаславакія, СССР, Румынія і Польшча.

Для нас наяўнасць белачырвоных сярод лепшых мае вялікае значэнне. Гэта доказ, што лепш, чым у мінулыя гады, нашы хлопцы працавалі зімой і вясной і лепей падрыхтаваліся да змагання на шляху Варшава — Берлін — Прага. Варта яшчэ дадаць, што, як заявіў трэнер польскай каманды Вандар, нашы веласіпедысты ў першай фазе велагонкі паедуць менш актыўна, эканомячы сілы на рашаючыя этапы ў ГДР і Чэхаславакіі.

Польская каманда прадстаўляе сабой добры калектыў, што ў такіх спаборніцтвах вельмі важная рэч.

Прыемную нечаканасць зрабілі нам нашы дэбютанты Палька і Запала. Першы пацвярджае ўкладаныя ў яго спадзяванні, а другі сваёй добрай яздой адкідае байку, што ўключэнне яго ў каманду гэтай велагонкі было ў нейкай ступені прыпадкам.

Некалькі слоў аб іншых камандах. Каманда ГДР, на маю думку, першы прэтэндэнт на першае месца. Аднак ім нялёгка будзе адбіць атакі чэхаславакаў. Што датычыць савецкіх веласіпедыстаў, дык яны яшчэ не праявілі сябе, хоць гэта зусім не азначае, што яны слабыя. Вельмі добра спраўляецца каманда Румыніі, члены якой умеюць выігрываць этапнае першынства.

Аднак не варта прадаваць скуры з жывога мядзведзя. Ні венгры, ні французы, ні бельгі не збіраюцца адмаўляцца ад барацьбы за першынства. Наадварот. Кожны разлічвае на папраўку спартыўнай формы сваіх веласіпедыстаў.

**Л. ТАРАСЕВІЧ**

**УСПАМІНЫ КАМУНІСТАЎ**

# Уладзімір Станкевіч. АДЗІН З МНОГІХ

**20)**

Пасля лекарскага агляду майго збітага цела я напісаў да пракурора скаргу аб катаванні мяне ў дэфензіве, хоць быў упэўнены, што нічога з гэтага не будзе, бо варона вароне вока не выдзяўбе.

Пракурор пачаў расследванне. Быў у турме судовы следчы, дапытваў мяне і Гулько ў справе катавання. У час размовы са мною выдаваў сябе вельмі абураным на ўчынкі шпікаў і пагражаў, што чакае іх кара да 5-ці год зняволення за біццё арыштаваных.

— А хто вас біў, падайце імёны і прозвішчы, — сказаў потым следчы.

— Прозвішчаў іх я не ведаю, бо яны мне не прадстаўляліся, — адказаў я. — Між сабою гаварылі «пане М.», «пане Г» і т.п.

— Гэта не добра, што не ведаеце прозвішчаў вінаўных, але мы іх будзем ведаць, — заявіў следчы.

Прыблізна за тыдзень мяне і Гулько павезлі турэмнай карэткай у горад да судовага следчага, у якога было ўжо з пятнаццаць шпікаў і кіраўнік дэфензівы. Следчы, сабраўшы ў сваім пакоі ўсіх шпікаў, паклікаў у пакой мяне і загадаў мне паказаць тых, якія білі. Я паказаў на трох шпікаў — Мілера, Клішку і Гурака і кіраўніка дэфензівы Кудзэвіча. Чацвёртага шпіка, які катаваў, не было там. Потым следчы, дапытаўшы каротка паказаных мною шпікаў, паклікаў мяне да сябе і сказаў:

— Яны не прызналіся да біцця, але адказваць будуць, бо супроць іх ёсць пратакол лекара, які з'яўляецца найлепшым доказам.

Аднак пракурор быў іншага погляду, бо паведаміў мне, што «расследванне ў справе біцця ў час допытаў спынена ў сувязі з адсутнасцю доказаў, фактаў біцця». Такія паведамленні атрымоўвалі ўсе таварышы, якія скардзіліся пракурору на катаванні іх шпікамі.

Становішчам пракурора я не задаволіўся і напісаў скаргу ў апеляцыйны суд у Вільні, які 12-га красавіка 1931 года, разгледзеўшы справу, вырашыў, што ёсць дастатковыя матэрыялы, сцвярджаючыя біццё арыштаваных, і загадаў прыцягнуць вінаўных да судовай адказнасці.

Прышоў да мяне ў турму ўжо іншы судовы следчы на дадатковы допыт, а потым пракурор паведаміў, што я маю права прад'явіць суду дадаткова акт абвінавачвання, падпісаны прафесарам права ці адвакатам. Арганізацыя наняла на гэтую справу беластоцкага адваката Качароўскага. Такім чынам было ў справе аж два акты абвінавачвання — ад пракурора і ад майго ўпаўнаважанага адваката.

У кастрычніку 1931 года акружны суд у Беластоку судзіў мяне і Аляксандра Гулько. Зала суда была запоўнена беластоцкімі рабочымі. Прыгаварылі мяне на шэсць гадоў цяжкой турмы і на ўсё жыццё пазбаўлення грамадскіх, ганаровых і вайсковых правоў, а Гулько на чатыры гады цяжкой турмы і на 10 год пазбаўлення грамадскіх, ганаровых і вайсковых правоў.

А ў лістападзе 1931 года адбылася ў беластоцкім акружным судзе справа супраць кіраўніка дэфензівы Кудзэвіча і трох шпікаў — Мілера, Клішкі і Гурака за катаванне нас. Яшчэ цясней запоўнілася зала суда беластоцкімі рабочымі. Была гэта першая апошняя справа ў Польшчы супраць шпікаў за катаванне палітычных арыштаваных. Шпікі сядзелі на лаве абвінавачаных, а я і Гулько выступалі на справе ў ролі сведкаў абвінавачвання. Я расказаў падрабязна аб катаванні мяне, а таксама аб катаваннях у беластоцкай дэфензіве іншых таварышаў

Суд давёў камедыю да канца, бо так толькі можна назваць гэту судовую працэдуру. Абвінавачвалі шпікаў з артыкула, па якому сапраўды належалася падсудным да 5 год зняволення. Шпікі атрымалі па аднаму месяцу арышту (нават не турмы) з адтэрміноўкай, бо «суд узяў пад увагу факт, што абвінавачаныя дзейнічалі несвядома, бо б'ючы камуніста, думалі, што гэтым садзейнічаюць на карысць грамадству». Так даслоўна суд матываваў свой «прыгавор». Але для нашага руху быў важны сам факт пастаўлення перад судом шпікаў за катаванне арыштаваных і сцвярджэнне, што катавалі. Гэтую справу




# СВЯТКАВАННЕ 20 ГАДАВІНЫ НАРОДНАЙ ПОЛЬШЧЫ

Дні польскай культуры адкрые ўрачысты вечар, які адбудзецца ў Мінску 22.VII. У ім прымуць удзел партыйныя і дзяржаўныя дзеячы БССР, пасол ПНР у СССР і афіцыйная польская дэлегацыя. У дні польскай культуры будуць дэманстравацца ва ўсіх гарадах і сёлах Савецкай Беларусі польскія кінафільмы. Таксама тэлебачанне ўключыцца ў азнаямленне беларускага гледача з польскай кінематаграфіяй.

Цікава выглядаюць планы папулярызацыі польскай кніжкі. У адным з нарачанскіх санаторыяў 25 ліпеня будзе арганізаваны вечар польскай літаратуры. Апрача даклада выступяць беларускія, а таксама і польскія пісьменнікі, якія будуць запрошаны ў Беларусь. Папулярызацыі кніжкі мае служыць выстаўка польскай літаратуры, арганізаваная ў найбольшай беларускай бібліятэцы ім. Леніна ў Мінску. Падобныя выстаўкі будуць арганізаваны па ўсёй краіне ў 39.000 гарадскіх, саўгасных і калгасных бібліятэках і бібліятэчных пунктах. Беларускія часопісы замесцяць у гэтым часе артыкулы польскіх аўтараў, пераклады з польскай літаратуры і публікацыі беларускіх літаратуразнаўцаў, прысвечаныя польскай паэзіі і прозе.

У сталіцы БССР будзе арганізавана выстаўка польскай сучаснай графікі і плаката.

У залах Беларускага Таварыства дружбы і культурных сувязей з заграніцай будзе экспанавацца выстаўка народных польскіх вырабаў.

У Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбудзецца 28 ліпеня канцэрт польскай класічнай і сучаснай музыкі. У святкаванне 20 гадавіны Народнай Польшчы ўключаюцца таксама навуковыя ўстановы. З'явіцца шэраг публікацый, прысвечаных беларуска - польскім літаратурным сувязям і рэвалюцыйнаму супрацоўніцтву нашых народаў.

Гістарычны інстытут А.Н. БССР арганізуе сесію, прысвечаную беларуска - польскім суадносінам у мінулым і сучасным.

У Брэсцкай вобласці ўрачыстасці адкрые вечар беларуска - польскай дружбы ў Брэсце (23.VII). Некалькі дзён пазней у гарадскім парку адбудзецца вялікі фэстын, спалучаны з танцамі, літаратурным конкурсам і конкурсам на выкананне польскай песні.

Ад 24 да 26 ліпеня ў прыгранічнай паласе адбудуцца мітынгі дружбы, у якіх прыме ўдзел насельніцтва з БССР і Польшчы. Прадбачана арганізацыя кастроў дружбы з удзелам гарцэраў і піянераў.

У святкаваннях 20 гадавіны народнай Польшчы на Брэстчыне возьме ўдзел дэлегацыя Люблінскага ваяводства.

На Гродзеншчыне Дні польскай культуры будуць мець падобны характар. Адкрые іх урачысты вечар у Гродне. Вечары, прысвечаныя польскай культуры, адбудуцца ў Гродне і Навагрудку. Будуць арганізаваны таксама беларуска - польскія мітынгі ў прыгранічнай паласе. Ва ўсёй Гродзеншчыне беларускія аддзелы ТП-СД арганізуюць шэраг культурных мерапрыемстваў, прысвечаных Польшчы.

Таксама ўрачыста будзе сустракаць свята Польшчы Магілёўшчына. 24.VIII з удзелам польскіх гасцей адбудзецца ў драматычным тэатры вечар беларуска - польскай дружбы. Дзень пазней будзе арганізаваны вечар польскай літаратуры. Урачыстыя вечары адбудуцца ў Горках і іншых мястэчках і сёлах Магілёўшчыны.

27 ліпеня ў пасёлку Леніна ля помніка польскім салдатам збярэцца мітынг з удзелам мясцовага насельніцтва. Выступяць на ім савецкія і польскія ўдзельнікі вайны з гітлераўскай Германіяй.

Апрача вылічаных тут урачыстасцей Беларускае Таварыства Дружбы і Беларускі аддзел ТП-СД намерваюцца правесці цэлы рад мерапрыемстваў, якімі будзе агорнута ўся Беларусь. Да мерапрыемстваў гэтых перад усім належаць:

1. Друк перакладаў з польскай паэзіі, прозы і драматургіі ў такіх часопісах, як «Полымя», «Беларусь», «Маладосць», «Нёман», «Літаратура і Мастацтва».

II. Кнігарні арганізуюць 37 выставак - кірмашоў польскай кнігі і савецкай кнігі, прысвечанай Польшчы.

III. Арганізаванне 200 фотавыставак, тэматычна звязаных з Польшчай

IV. Даклады і лекцыі ў гарадах, сёлах і прадпрыемствах, прысвечаныя гісторыі і сучаснасці Польшчы.

У перыяд Дзён польскай культуры адбудзецца ў Беларусі 20 000 сходаў, вечароў, гулянняў і г.д. Арганізатары думаюць, што гэтыя мерапрыемствы агорнуць 8.000 000 чалавек — статыстычна ўсё насельніцтва Беларусі.

## 120 ТЫСЯЧ ДЛЯ ВЁСКІ

У сувязі з Днямі Асветы і Друку незаводны СФОС зрабіў прыгожы крок: прызнаў 120 тысяч злотых на абсталяванне 12 вясковых святліц. Лічба прыемна абсталяваных святліц на вёсцы такім чынам узрасце. Акрамя СФОС свой дар з выпадку Дзён зрабіў таксама ВЗГС, які пастанавіў арганізаваць 10 клубаў - кавярняў, абсталяваных за свае грошы. (вл)

## ХВАЛЮЮЧАЯ КНІЖКА

На першы погляд, кніжка «Камандарм Убарэвіч» не робіць асаблівага ўражання, не здаецца, што належыць да тых, што «глытаюцца» без адрыву. Спачатку ўвагу зварочвае на сябе толькі прозвішча, якое ў апошнія гады ўпаміналася разам з прозвішчам Тухачэўскага і Якіра. Першая думка, якая ўзнікае, што гэта яшчэ адна пасмертная рэабілітацыя, яшчэ адзін помнік. На такія думкі настрайвае змешчанае на вокладцы кніжкі выказванне Н. С. Хрушчова : «Ахвярамі рэпрэсій сталі такія вядомыя военачальнікі, як Тухачэўскі, Якір, Убарэвіч, Корк, Ягораў, Эйдэман і другія. Гэта былі заслужаныя людзі нашай партыі, асабліва Тухачэўскі, Якір і Убарэвіч. Яны былі віднымі палкаводцамі...

Таварышы прапануюць увекавечыць памяць відных дзеячоў партыі і дзяржавы, якія сталі ахвярамі беспадстаўных рэпрэсій у перыяд культу асобы. Мы лічым гэтую прапанову правільнай.» (З заключнага слова на XXII З'ездзе КПСС 27/X 1961 года).

Калі пачынаем перагортваць старонкі ўспамінаў таварышоў Убарэвіча з перыяду грамадзянскай вайны, з розных фронтаў найдалейшых закуткаў Далёкага Усходу, ад поўначы да поўдня, змяняем сваё ўражанне аб кніжцы. Пераконваемся, што кніжка гэта выходзіць за рамкі звычайнага выражэння грамадскага доўгу вялікаму палкаводцу: маем перад сабой сапраўдную «малую энцыклапедыю» слаўнай эпохі. Перад нашымі вачыма праходзіць цэлая плеяда людзей, аб якіх гаворыцца, што толькі такія змаглі перамагчы значна лепш узброенага, лепш падрыхтаванага да вайны і часта сільнейшага ворага. Кніжка прыпамінае нам нямала гістарычных падзей, вырысоўвае перад намі карціну суадносін таго часу, пры якіх зусім натуральнай робіцца небывалая дагэтуль з'ява: яшчэ нядаўна літоўскі пастух, які дзякуючы сваім асаблівым здольнасцям атрымаў вялікія веды і даслужыўся ў царскай арміі да рангу падпаручніка становіцца ў 1917 годзе на службу сацыялістычнай рэвалюцыі, пачынае ў хуткім часе камандаваць франтамі рэвалюцыйнай шматнацыянальнай арміі. Быў назначаны камандуючым арміі, калі меў 22 гады. Калі Серго Арджанікідзе прыбыў у 1919 годзе ў Бранск, у штаб Убарэвіча як новавызначаны член Ваеннага Рэвалюцыйнага Савета XIV Арміі і ўбачыў у кабінеце камандуючага незнаёмага хлапца, запытаў: «Дзе камандуючы?» Думаў, што гаворыць з маладым ад'ютантам. А гэтым хлапцом быў якраз Убарэвіч.

Кніжка пакідае незабыўны вобраз Гераніма Убарэвіча — высокаадукаванага ваеннага палкаводца, які ўсе свае сілы пакладаў на ўдасканаленне савецкай арміі, стараўся зрабіць яе больш рухлівай, узброіць навейшай тэхнікай. Убарэвіч ведаў нямецкія ваенныя дактрыны, ведаў, чаго можна спадзявацца ад нямецкіх генералаў (бо давучаўся ў Германіі), пастаянна думаў аб тым, як пазбегнуць нечаканага нападзення, як перамагчы ў зусім іншых умовах.

Убарэвіч блізкі для нас яшчэ і тым, што ён дзейнічаў таксама і на беларускім фронце. Тут у 1921 годзе ліквідаваў банды Булак - Булаховіча, апошнія 6 год свайго жыцця аддаў беларускім узброеным сілам.

Аднак найцікавейшы бок кніжкі заключаецца ў тым, што вобраз палкаводца не завіс у паветры. Кніжка дае багаты фон суадносін паміж камандуючым і бліжэйшымі супрацоўнікамі, салдатамі. Кожная новая замалёўка дае магчымасць убачыць новую рысу характару гэтага чалавека.

Напрыклад, вось такі выпадак з апошніх гадоў. Пасля сутачнай адсутнасці ў Смаленску, дзе размяшчаўся штаб ваеннай акругі, Убарэвіч зазваніў да свайго намесніка і, як звычайна, запытаў: «Што новага?» Незадаволены адказам, здзіўляецца: як можа быць, каб у жыцці 300 000 давераных яму людзей за цэлыя суткі «нічога важнага» не здарылася. Гэты адказ Убарэвіч прымае як сігнал трывогі, што яго намеснік або вельмі змучаны або страціў пачуццё новага, пачуццё арыентацыі.

Адным словам, цудоўны герой і хвалюючая кніжка, напісаная людзьмі з вялікім і мужным сэрцам, якія самі адчулі горыч незаслужанага абвінавачання і, мабыць, таму з такім болем у апошніх фрагментах сваіх успамінаў так гавораць аб перажытых гадах: «Не такой была б трагедыя на пачатку Вялікай Айчыннай вайны, каб жылі Тухачэўскі, Убарэвіч, Якір, Ягораў, Блюхер і шмат іншых». (стр. 206). Або «Як можна даравать Сталіну тое, што такія вядомыя военачальнікі, якія рыхтавалі армію да жорсткай вайны з нямецкім фашызмам, былі расстраляны напярэдадні яе». (стр. 68). Нечаканае было напісанае Мерацковым (адзін з аўтараў), які расказвае, што Сталін пасля расстрэлу Убарэвіча загадаў яго намесніку: «Вучыце войска так, як рабілі гэта пры Убарэвічу». (стр. 164).

Коратка кажучы, гэта павучальная кніжка не толькі для партыйных і дзяржаўных дзеячыў, асабліва ваенных, але і для гісторыкаў (што за мова ваенных дакументаў), выхавацеляў і для кожнага, хто любіць цікавую кніжку. Варта яшчэ дадаць, што ў кніжцы ёсць шмат фотаздымкаў, між іншымі правадыроў Беларусі т.т. Н. Гікалы, П. Галадзеда, Л. Аранштама, які пад прозвішчам І. Чэрняк у 1925 годзе сядзеў у беластоцкай турме (быў тады сакратаром ЦК КПЗБ, адным з галоўных абвінавачаных у беластоцкім працэсе 133-х). Кніжка прыносіць шмат цікавых звестак аб людзях, успамянутых у ёй.

ЕВА КАЧКОЎСКАЯ

моцна выкарыстала партыя не толькі ў сваіх падпольных выдавецтвах.

Умовы ў беластоцкай турме, у параўнанні з маім папярэднім прабываннем, моцна змяніліся — пагоршыліся. Палітычныя вязні сядзелі толькі ў камерах па тры асобы. Турэмная адміністрацыя імкнулася ўсё больш абмяжоўваць правы палітвязняў, асабліва ад палавіны 1931 года, калі ўвайшоў у жыццё новы турэмны распарадак для вязняў, паводле якога палітычныя вязні раўняліся ў турэмных абставінах з крымінальнымі.

Пачалася з нашага боку няспынная барацьба ў абарону здабытых крывёю палітвязняў правоў. Мы складалі вусныя і пісьмовыя пратэсты, адмаўляліся выходзіць на прагулку, адмаўляліся ад спатканняў са сваякамі, калі спатканне давалі праз краты, аб'яўлялі аднаднёвыя ці некалькідневыя галадоўкі і інш. Адбывалася гэта ва ўсіх турмах Польшчы, бо новы турэмны распарадак датычыў усіх турмаў, хоць уводзілі гэты распарадак у турмах неаднолькава. У такіх турмах, дзе камуна палітвязняў была шматлікая і таму сільная, там пачыналі атакаваць ад дробных спраў і не адразу. Пры тым пад развагу бралі і сілу нашага руху ў данай мясцовасці, бо працоўныя актыўна выступалі ў абарону палітвязняў, дамагаючыся іх звальнення.

Я бедаваў толькі аб тым, што пагоршыліся ўмовы да вучобы. У адзіночных камерах не было такіх магчымасцей, як у агульных. Зрэшты, абмежаванні ішлі ў першую чаргу ў гэтым напрамку, бо ўлады добра разумелі, якое значэнне мае для нас у турме вучоба.

## ГЛЯДЗІЦЕ ГІСТОРЫЮ

**У Музеі рэвалюцыйнага руху ў Беластоку ў апошніх днях красавіка была адкрыта пастаянная выстаўка, прысвечаная гісторыі Беласточчыны.**




Выстаўку адкрываюць матэрыялы, ілюструючыя водгукі Кастрычніцкай рэвалюцыі на Беласточчыне.




Дзейнасць «Грамады» — гэтай масавай беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі — з'яўляецца адной са светлейшых старонак нашай гісторыі.



Жыхары Беласточкага ваяводства не паддаліся фашысцкаму прыгнёту. Аб тым пераконваецца чалавек, калі глядзіць дакументы ілюструючыя партызанскі рух. Лясы Беласточчыны віталі акупантаў смяротным агнём.

Фота: В. Рудчык



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

 



# ПАРТЫЗАНЫ В'ЕТНАМА

Летам 1954 года жэнеўскае пагадненне вялікіх дзяржаў закончыла шматгадовую крывавую вайну, якую в'етнамцам накінулі французскія каланізатары. Паўднёвым В'етнамам авалодала тады сям'я Дзьема. А вось якім метадам.

У верасні 1954 года (ледзь мінула 2 месяцы пасля падпісання жэнеўскага пагаднення) полк дзьемаўскіх салдат пад камандваннем Ле Вач Нг'ема (цяпер ён ужо — генерал - маёр) адправіўся ў правінцыю Куанг Нам. Адзін з батальёнаў



Вось «стратэгічная вёска». За агарожай некалькі кучак-хатак, а ў іх сяляне.

гэтага палка спыніўся ў вёсцы Чо Дуюк.

«Салдаты адразу кінуліся біць людзей, — успамінае Дзінь Чаў, адзін са сведкаў. — Потым яны сталі рубаць фруктовыя дрэвы і кустарнікі бамбука. Збегся народ, людзі сталі пратэставаць. Раздаліся выстралы. Кулі забілі сорак чалавек, перш за ўсё жанчын і дзяцей».

Быў гэта першы акт прадуманай дзьемаўцамі палітыкі: запалохаць людзей крывавым тэрорам. Адкуль мы ўжо гэта ведаем? Ведаем таксама, што гітлераўцам не ўдалося запалохаць нашага насельніцтва. Гэта ж самае ў Паўднёвым В'етнаме. Пад канец 1956 года Дзьем распачаў кампанію «пакарання камуністаў».

Акруга Дзьем Ван лічылася цэнтрам вызваленчага руху да 1956 года. Для «пакарання камуністаў» дзьемаўцы паслалі сюды сілы спецыяльнага прызначэння. Апрача палка салдат, у іх складзе быў батальён «грамадзянскага дзеяння», састаўлены з заўзятых бандытаў і забойцаў, падабраных у турмах. Камандвалі імі афіцэры — сыны памешчыкаў, якіх маёнткі былі канфіскаваны ў час вызваленчага руху. «Абраблялі» яны вёску за вёскай, прымяняючы самыя страшэнныя метады здзекаў. Сяляне былі абураны, калі дзьемаўцы застаўлялі іх аддаваць назад зямлю, або прымушалі плаціць за яе незвычайна вялікія сумы грошай.

Пад канец 1960 года пачалося сапраўднае масавае супраціўленне дзьемаўцам. Быў арганізаваны Нацыянальны фронт барацьбы за вызваленне Паўднёвага В'етнама. Хутка дзьемаўцы страцілі кантроль над вялікай часткай краіны. Тады яўна ва ўнутраныя справы В'етнама ўмяшалася ваеншчына Злучаных Штатаў Амерыкі. Паводле плана Стэйлі - Тэйлара яны пачалі ствараць так званыя «стратэгічныя вёскі», якія ў сапраўднасці нічым не адрозніваліся ад канцлагераў, дзе замыкалі сялян. Сілай зброі ім удалося стварыць каля 8-мі тысяч такіх «вёсак», але нават у гэтых вёсках — лагерах гаспадарамі былі толькі ўдзень. Ноччу гаспадарылі партызаны — байцы за вызваленне.

Выступленні народа Паўднёвага В'етнама не былі арганізаваны кімсьці звонку. Яны ўзнікалі ў тысячах розных мясцін, кожны дзень, калі крывавыя расправы рэжыма Нго Дзінь Дзьема даходзілі да такіх памераў, што людзі больш ужо не маглі цярпець.

У Паўднёвым В'етнаме ўжо трэці раз змяняўся дыктатар, а гэтая жудасная вайна ўсё яшчэ прадаўжаецца. Яе падтрымоўвае ўрад ЗША. А народ, в'етнамскі народ, не хоча ні дыктатараў, ні апекуноў, ані вайны. (вр)



Афіцэр - інструктар. Значок «US ARMY» не пакідае ніякіх сумненняў, хто тут гаспадаром.



Партызаны — байцы за свабоду са здабытай зброяй.




...калі бачныя адлюстраванні зорак шчыльна наблізіць адно да другога, то яны пакрыюць толькі адну дваццацімільярдную частку ўсяго бачнага неба?

## ШТО ДЗЕ ЯК

### СКРЫШКІ — САМАГУДЫ



На нашым здымку слаўная ў свеце польская скрыпачка Ванда Вілкамірская з неразлучнай скрыпкай.

### ГАРМАТА ПРАВЯРАЕ ГАДЗІННІК

У адзін са снежаньскіх зімовых дзён 1735 года апоўдні з Адміралцейскага бастыёна ў Пецярбургу грымнуў гарматны стрэл. Не, гэта не быў сігнал трывогі перад паяўленнем ворага. Як ні дзіўна, але стрэл азначаў, што настаў... поўдзень. Пачуўшы яго, усе жыхары Пецярбурга, кінуліся да сваіх гадзіннікаў і паставілі стрэлкі роўна на 12 гадзін.

Ініцыятыва правяраць гадзіннікі гарматамі зыходзіла ад Расійскай Акадэміі Навук. У адной з яе пастаноў ад снежня месяца 1735 года гаварылася: «Даць кожнаму санкт - пецярбургскаму абывацелю спосаб, як спраўна заводзіць па Сонцу насценныя і кішэнныя гадзіннікі».

Такім быў першы сігнал дакладнага часу. Апошні раз гэтая гармата выстраліла ў сярэдзіне 1938 года. Зараз яна знаходзіцца ў Артылерыйскім гістарычным музеі ў Ленінградзе.




Злавіўшы на сабе позірк Гольдрынга, фраў знікла ў натоўпе.

«Выдала!» — мільганула ў галаве.

— Так, гаўптман фон Гольдрынг, — вымушаны быў пацвердзіць ён.

Ганчарэнка ведае: калі яго апазналі, ён не мае права назваць сябе. Ні пры якіх абставінах. Трэба зыходзіць з іншай мажлівасці. Але выйшла зусім не так, як ён спадзяваўся. Грыгорый не мог ведаць таго, што ў гэты самы час у Аўстрыі, у паўднёвай Францыі, на граніцы Германіі і Швейцарыі вылоўлівалі тых гітлераўцаў, якія паверылі запэўненням фашысцкай прапаганды, што вайна будзе працягвацца ў гарах паўднёвай Германіі, і ўцякалі сюды ад войск пераможцаў.

Зразумеўшы, што іх шукалі, тыя салдаты і афіцэры пераважна з войск СС пад выдуманымі прозвішчамі, падчас з сумніцельнымі дакументамі ў кішэнях, а часта і без іх, уцякалі цяпер ва ўсе бакі, ратуючыся ад магчымай і заслужанай кары.

Іх вылоўлівалі і заганялі за калючы дрот лагера для ваеннапалонных, адкуль большасць, значную большасць саюзнікі адпускалі, нават не пацікавіўшыся іх злачыннай дзейнасцю ў час вайны.

Таму, калі Гольдрынга прывялі ў камендатуру лагера, чарговы сержант не спытаў у яго, адкуль і куды ён ідзе, указаў толькі нумар барака, куды Гольдрынга і адвялі.

5

Лагер для ваеннапалонных каля невялічкага горада Шэддзі быў размешчаны на колішнім аэрадроме, цяпер абгароджаным калючым дротам. Кожнай роце адвялі сваю дзялянку. Узводныя, ротныя і батальённыя камандзіры знаходзіліся пры сваіх падраздзяленнях. Былых штабных афіцэраў размясцілі ў асобных бараках. Афіцэрам вышэйшых рангаў прызначылі асабістых дзеншчыкоў, іншыя афіцэры, пачынаючы ад лейтэнанта і да маёра, мелі аднаго дзеншчыка на трох. Забаранялася мець пры сабе бінокль, фотаапарат. Афіцэрам дазвалялася пакінуць пры сабе толькі пісталеты, а унтэр - афіцэрам — так званыя зайценгеверы, штыкі ад вінтовак.

Лагер Шэддзі ўяўляў сабой цэлае мястэчка з баракаў. Тут было размешчана нешта каля васьмідзесяці тысяч нямецкіх салдат і афіцэраў. Баракі стаялі правільна спланаванымі кварталамі, па колькасці якіх можна было вызначыць колькасць батальёнаў. Вялікі ангар быў прыстасаваны пад клуб, тут увесь час безупынна дэманстраваліся кінафільмы.

Камендатура лагера размясцілася ў чатырох двухпавярховых будынках каля самага ўваходу на былы аэрадром.

Палонным абвясцілі, што ўсе яны будуць адпушчаны дамоў, за выключэннем тых, хто служыў у войсках СС, СД, у гестапа. І тут стала вядома, што палонных, сем'і якіх жывуць ва ўсходняй Германіі, будуць выпускаць у апошнюю чаргу, прычым пасля таго, калі яны адмовяцца застацца ў заходніх зонах.

Каго-нікаго, пераважна штабных афіцэраў, іншы раз выклікалі ў камендатуру, трымалі там па некалькі гадзін. На запытанні сваіх калег аб прычынах выкліку штабісты адказвалі неахвоча, спасылаючыся на адно і тое ж тлумачэнне:

— Распытвалі пра работу штаба...

Генрыха, не зважаючы на некалькі пададзеных на імя начальніка лагера рапартаў, пакуль што нікуды не выклікалі, і ён цэлыя дні ляжаў у бараку з кнігай у руках — пры лагеры была даволі прыстойная бібліятэка.

6

Раніца першага ліпеня пачалася для Гольдрынга незвычайна. Ён прачнуўся ад таго, што яго хтосьці трос за плячо, а калі расплюшчыў вочы, убачыў каля сябе сержанта. На ломанай нямецкай мове ён запытаў:

— Вы гаўптман фон Гольдрынг?

— Так, я.

— Тады не бойцеся, пойдзем у камендатуру.

— Хто мяне выклікае?

— Даведаецеся на месцы.

Нескладаны ранішні туалет адняў нямнога часу, і праз некалькі мінут Генрых быў ужо ў камендатуры.

Пакой, куды ўвёў яго сержант, быў падобны на падзелавому абстаўленую кантору. Нічога лішняга: у правым кутку па дыяганалі вялікі пісьмовы стол і перад ім скуранае крэсла, з нізкай круглай спінкай, уздоўж правай сцяны — вялікая шафа з вялікай колькасцю шуфляд. Кідаліся ў вочы чорныя літары лацінскага алфавіту на кожнай з гэтых шуфляд і хіба што эбанітавая трубка тэлефона на пісьмовым стале.

Прытым, усе гэтыя дэталі кінуліся ў вочы Генрыху адразу. Увагу яго, натуральна, прыцягнула постаць мужчыны, што сядзеў за пісьмовым сталом.

Генрых чамусьці чакаў убачыць вайскоўца, а перад ім быў чалавек у цывільным, не першай свежасці касцюме, які мешкавата абвісаў на касцлявых плячах. Расшпілены каўнер сарочкі агаляў худую маршчыністую шыю, і гэта завяршала карціну нейкай запушчанай неахайнасці ў адзенні гаспадара кабінета. Іншае ўражанне выклікаў твар. З-за непамерна вялікіх акуляраў, якія закрывалі амаль што трэць твару, на Генрыха глянулі халодныя і пільныя вочы. Здавалася, у іх сабрана ўся сіла гэтага нямецкага, хударлявага цела.

Ледзь кіўнуўшы галавой на прывітанне Генрыха, чалавек паказаў на крэсла.

Гольдрынг сеў.

Некалькі секунд Гольдрынг і чалавек у цывільным моўчкі разглядалі адзін аднаго. Нарэшце сківіца гаспадара кабінета варухнулася.

7



 

